# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

10 сьнежня 1998 №19 кошт 1 літ

# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА АПАЗЫЦЫІ

***Якой Беларусь уваходзіць у 1999 год? Мяркуем, што нашым чытачам напрыканцы 1998-га, калі ўсе сродкі беларускіх СМІ фактычна знаходзяцца ў руках прэзыдэнцкай каманды, а незалежная прэса выходзіць самым мізэрным накладам, — цікава будзе зірнуць на Беларусь вачыма вядомых беларускіх палітыкаў, прадстаўнікоў апазыцыі, якія ў апошнія дні лістападу наведалі Вільню.***



СЯМЁН ШАРЭЦКІ:

Нашая рэспубліка перажывае цяпер вельмі цяжкія часы. Верагодна гадоў 8-10 таму ніхто ня мог падумаць, што краіна, якая стала зноў незалежнай, якая атрымала сваю дзяржаўнасьць й пачала разьвівацца па дэмакратычным шляху, — будзе адкінутая назад, па-сутнасьці, у сераднявечча. На жаль, гэта так. Лукашэнка сёньня сканцэнтраваў у сваіх руках усю ўладу, якая толькі мажлівая: ад пажарніка да князя й караля. Сёньня ён узначальвае заканадаўчую ўладу, падабраў і прызначыў сваім указам гэтак званы «парлямант», прызначае ўсіх судзьдзяў, ад раённых да канстытуцыйных. Судзьдзі судзяць людзей не на падставе законаў, а на падставе лукашэнкаўскіх дэкрэтаў. А кішэнны «парлямант» функцыяне толькі для таго, каб падцьвярджаць правільнасьць таго, што чыніць ягоны гаспадар. Ён ня мае нават заканадаўчай ініцыятывы: усе законы пішуцца ў канцыляры прэзыдэнта й па-сутнасьці аўтаматычна прымаюцца гэтак званым Нацыянальным Сабраньнем. Больш за тое, Лукашэнка паводле сваёй незаконнай Канстытуцыі мае права выдаваць дэкрэты, і калі яны на працягу трох дзён не зацьверджваюцца гэтым Нацыянальным Сабраньнем, дык прымаюць сілу закону! І склікаць гэтае Сабраньне ня мае права нават ягоны старшыня, а толькі прэзыдэнт.

І роля Саветаў сёньня гэта ў лепшым выпадку роля дарадчых ворганаў пры губэрнатары. Саветы нічога не вырашаюць, таму што ўсе старшыні аблвыканкамаў, райвыканкамаў, гарвыканкамаў прызначаюцца самім прэзыдэнтам. Яны патрэбныя толькі для бутафорыі, як пры Мусаліні й Гітлеры йснавалі гэтак званыя «саветы», катория штосьці радзілі, калі гэта было патрабна самім дыктатарам.

Адпаведна, як і пры кожным дыктатары, ні пра якое захаваньне правоў беларускага народу й кожнага асобнага грамадзяніна казаць таксама не даводзіцца. Прэзыдэнцкая гвардыя, якая налічвае ўжо больш за 2 тыс. чалавек, затрымлівае й саджае ў турмы кожнага бяз санкцыіі пракурора. Не саромяцца саджаць нават паважаных, шырака вядомых у Беларусі людзей. Сядзяць два дэпутаты Вярхоўнага Савету Клімаў і Кудзінаў. Ужо год сядзіць міністар сельскай гаспадаркі сп. Лявонаў. Амаль два гады адседзела старшыня Нацбанку спн. Віньнікава. Сядзіць двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, вядомы ў свойчас як перадавы старшыня, а сёньня — як рэфарматар, які пераўтварыў свой калгас у квітнеючае акцыйнае таварыства, 74-гадовы Старавойтаў... Увогуле ў нас сёньня затрымліваюць толькі за тое, што чалавек размаўляе па-беларуску: гэтага дастаткова, каб абвінаваціць яго ў нацыяналізьме.

Беларусь, Менск, прэзыдэнцкая кантора сталіся, па-сутнасьці, месцам сканцэнтраваньня ўсёй камуністычнай і імпэрскай нечысьці, якая толькі ёсьць у Беларусі, у Расеі, ва Ўкраіне, Югаславіі й Прыднястроўскай Рэспубліцы. У Менск езьдзяць на кансультацыі й там падсілкоўваюцца ўсялякія Бабурыны ды Ільлюхіны, якія абвінавачваюць усходнеэўрапэйскія краіны, у тым ліку й Літву з Польшчай, што там, маўляў, заселі амэрыканскія спэцслужбы, каторыя толькі тым і займаюцца, што палююць на нашага прэзыдэнта. Туды прыяжджаюць і ў захапленьні зьяжджаюць пракамуністычныя элемэнты Ўкраіны. Лукашэнка падтрымлівае гэткага самага дыктатара Мілошавіча, і не таму, што той правы, а таму што ён, маўляў, славянін.

Увогуле, усе размовы пра нейкую нябачаную яшчэ ў Эўропе «славянскую дзяржаву» ўяўляюць сёньня вялікую небясьпеку для эйрапэйцаў, бо гэтыя размовы маюць пад сабой практычны падмурак: дзеля правядзеньня ў жыцьцё гэтай на першы погляд вар'яцкай ідэі пры прэзыдэнцтве створаная адумысловая арганізацыя «Славянское единство», дзе запраўляюць у асноўным расейскія палкоўнікі. У гэтак званую «славянскую дзяржаву» Лукашэнка марыць уключыць ня толькі Ўкраіну, але й Прыднястроўскую Рэспубліку зь Югаславіяй. А каб з Прыднястроўя ў Югаславію быў «мосьцік», дык да сваёй дзяржавы ён далучае й Румынію! У «Славянским единстве» вядуцца нават размовы пра тое, што калі раптам Заходняя Украіна не захочыць далучыцца да будучай славянскай дзяржавы, дык давядзецца падзяліць яе напалам (гэтак, напрыклад, лічыць доктар гіст. навук сп. Бабосаў). Дарэчы, зусім нядаўна пасланьнікі Мілошавіча разам з парлямантарыямі Беларусі й Расеі правадзілі сумеснае паседжаньне ў Яраслаўлі. Няспраста таксама й Руская Праваслаўная Царква, каторая заў-

Працяг на старонцы 6

* * *

**Кінь вечны плач свой аб староньцы!**
**Няўжо жа цёмнай ноччу ты**
**Ня бачыш, што глядзіцца сонца**
**У люстэрка – месяц залаты?**

**Ня згасла сонца? Сонца гляне,**
**Усіх падыйме ада сна.**
**Ён, гэты дзень, яшчэ настане, –**
**І «ачуняе старана»!**

**Я пад яе зімовай маскай –**
**Пад сьнегам – бачу твар вясны,**
**І вее верш мой дзіўнай казкай,**
**І ясны ён, як зорак сны.**

**1911**




*Успаміны Я. Каханоўскай пра Максіма Багдановіча на старонцы 3*




Кожны кожнаму на Каляды зычыць Вясёлых сьвятаў! Мы, сябры рэдакцыі газэты беларусаў Літвы «Рунь», таксама жадаем вам, шаноўныя чытачы — Вясёлых сьвятаў! Мусіць, нязгоршы калядны падарунак гэта падпіска на нашую газэту? Зрабіце гэты падарунак самыя сабе й падпішэце іншых: каханых, сяброў, блізкіх вам людзей. Сьпяшайцеся! Каляды ўжо блізка!

## З АБШАРАЎ ВКЛ

Ідэя правядзеньня рэфэрэндуму аб утварэньні канфэдэрацыі Беларусі й Расеі, вылучаная лідэрам беларускіх лібэрал-дэмакратаў Гайдукевічам, не знайшла пакуль што падтрымкі ў кіруючых колах РБ, баяцца, мабыць, што ў зьвязку зь цяперашнім крызісам у Расеі беларускае насельніцтва не прагаласуе за тую «канфэдэрацыю».

Прэзыдэнт Лукашэнка выкрыў прычыну харчовага дэфіцыту ў сваёй краіне. Прадуктаў не хапае, сказаў ён, таму што іх штодня раскупляюць.

Масавая акцыя пратэсту, якую мелі ладзіць 2 сьнежня як «свабодныя», гэтак і «афіцыйныя» прафсаюзы Беларусі, так і не адбылася. Улады, занепакоеныя заплянаванымі дэманстрацыямі працоўных, — дзе падвышкаю зарплаты, дзе пагрозамі й запалохваньнем здолелі прадухіліць іх.

А тым часам цэлы тыдзень працягвалася галадоўка пратэсту дробных літоўскіх прадпрыймальнікаў (чытай — кірмашовых гандляроў) каля сойму Літоўскай Рэспублікі. Новыя правілы гандлю, уведзеныя ўрадам, зрабілі практычна немагчымым іх дзейнасьць, каторай яны змушаныя займацца з прычыны масавага беспрацоўя. Пратэстуючыя галадалі ў палатках у 20-градусны мароз. Адзін зь іх, абураны новымі драконаўскімі законамі, вярнуў сьпікеру сойму Ляндзбэргісу мэдаль «За самаахвярнасьць у абароне Літоўскай Рэспублікі 13 студзеня».

23 лістапада ў Літве зь вялікай помпай адзначалася 80-годзьдзе Літоўскай арміі. Паводле афіцыйных зьвестак Літва распачынае вытворчасьць боепрыпасаў, якія маюць адпавядаць стандартам НАТО й частку якіх будуць экспартаваць у Эстонію й Латвію. Паведамляецца й пра тое, што салдаты ў літоўскім войску прыбываюць на вазе, што ня дзіўна, бо расходы на войска складаюць ільвіную долю бюджэту краіны й пастаянна павялічваюцца.

Салдацкаму меню могуць толькі пазайздросьціць шмат якія грамадзяне Літвы, асабліва працоўныя абутковага аб'яднаньня «Эльняс», дзе здараюцца выпадкі галодных вобмаракаў у цэху. Зарплаты тут ня бачылі з чэрвеня.

Беларусь задаўжала літоўскім энэргетыкам больш як 270 млн. літаў. Аднак адключыць падачу электраэнэргіі немагчыма, бо гэта разбурыць дзейнасьць дзяінай энэргасыстэмы, якая лучыць краіны Балтыі, Беларусь і Расею.

Пасьля Новага году літоўскі ўрад зьбіраецца рэзка падвысіць акцызы на нафтапрадукты. Затое цэны на віно нібыта зьменшацца: гэтым намерваюцца адцягнуць увагу аматараў сьпіртнога ад таннага кантрабанднага беларускага сьпірту й гарэлкі. Нядаўнае павышэньне акцызаў на гарэлку прынясло казьне Літвы шматмільённыя страты.

Міністар аховы шляхоў зносін Альгіс Жваляўскас быў змушаны падаць у адстаўку пасьля таго, як зьлётаў на паляваньне ў Швэцыю на прэзыдэнцкім самалёце «Джэтстар», што абыйшлося дзяржаўнай казьне ў 40 тыс. літаў. Дарэчы, паляваньне было няўдалае...

Падрыхтаваў **Алег Аблажэй**

# ЛЮСТРАДЗЁН

## Трэцяя навуковая канфэрэнцыя

на тэму „Культурнае жыцьцё Вільні“ адбылася 22 кастрычніка ў Літоўскім інстытуце літуаністыкі й фальклёру. Матар'ялы дзьвюх папярэдніх канфэрэнцыяў, прысьвечаных адпаведна пэрыядам гісторыі Вільні 1900-1918 і 1919-1939 г.г., выдадзеныя асобнай кніжкай. Апошняя канфэрэнцыя ахапіла пэрыяд з 1939 па 1944 год. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў: літоўцы, палякі, беларусы, расейцы, жыды. Хочацца адзначыць вельмі цікавы й эмацыянальны даклад Эсфір Альперэне пра гісторыю Жыдоўскага інстытуту ў Вільні й трагічным лёсе віленскіх жыдоў, а таксама даклад Біруці Мацконіце „Культура Вільні ў карусэлі шасьці ўладаў“, аснову якога склалі ейныя ўласныя ўспаміны. Тры даклады тычыліся беларускага (Ніна Пяткевіч), літоўскага (Альма Лапінскене) і расейскага (Павел Лаўрынец) друку. І хоць даклады чыталіся па-літоўску, па-расейску, па-беларуску – у канфэрэнцзалі панавала агульнае зразуменьне.

**Галіна Войцік**

## На лістападаўскім паседжаньні ТБК

яшчэ раз былі абмяркаваныя праблемы, зьвязаныя з пашырэньнем сярод жыхарства Літвы вельмі важнай акцыі: прыняцьця сымбалічнага грамадзянства БНР. Абмяркоўваліся пляны дзейнасьці Таварыства на 1999 год. Было заплянавана шмат якіх цікавых імпрэзаў, у тым ліку з нагоды 80-годзьдзя Віленскай Беларускай Гімназіі. Пастанавілі аказаць пасільную грашовую дапамогу беларускаму музэю ў Гайнаўцы. Было таксама пастаноўлена пачаць збор сродкаў на помнік да гадавіны з дня сьмерці беларускага патрыёта, супрацоўніка „Руні“ й выдатнага навукоўца-хіміка Леваніда Караля. Рабіць помнік будзе наш віленскі скульптар Эдуард Падбярэскі.

**А. М.**

Інфармацыю пра набыцьцё сымбалічнага **грамадзянства БНР** можна атрымаць па тэлефоне: **72 55 95 або 61 65 32.**

Збор сродкаў на помнік **Леваніду Каралю.**

75 97 28 ☎ 61 65 32.

## На плошчы Незалежнасьці

23 кастрычніка 1998 году ў Вільні перад будынкам парляманту адбыўся мітынг у сувязі з тым, што ўлады ЛР не вяртаюць зямлю ейным законным уласьнікам, жыхарам Віленскага раёну. Мітынгуючыя пратэставалі гэтаксама супраць увядзеньня новага адміністрацыйнага падзелу Віленскага краю, паводле якога славянскае насельніцтва (пераважна этнічныя беларусы) мусіць быць раздробленае й далучанае да раёнаў, дзе большасьць будуць складаць літоўцы. Акцыю пратэста ладзіў Віленскі раённы аддзел Саюза палякаў Літвы супольна зь некаторымі арганізацыямі нацменшасьцяў. На ёй пад лёзунгамі „Зямля не каляністам, а законным уладальнікам!“, „Мы ня кінем зямлю, адкуль наш род!“ ды іншымі прысутнічала каля 2 тыс. удзельнікаў. Побач зь дзяржаўнымі літоўскімі ды польскімі сьцягамі лунаілі й нашыя бел-чырвона-белыя сьцягі, з трыбуны гучала й нашая беларуская мова: сябры ТБМ Віленскага краю бралі актыўны ўдзел у тым мітынгу.

*Старшыня ТБМ Віленскага краю*
**Юры Гіль**

Каталіцкая грамада касьцёла Сьв. Барталамэя выказвае шчырую падзяку віленчуку **Яну Козічу** за ахвяраваны ім абраз Маткі Боскай Вастрабрамскай, які мае гістарычную й мастацкую каштоўнасьць.

Старшыня грамады
**Хведар Грушэўскі**



**Беларускія кнігі:**

**„Беларусы Балтыі: учора, сёньня, заўтра. Сшытак першы.“**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Марыян Пецюкевіч.
**У пошуках зачараваных скарбаў.**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Лявон Луцкевіч.
**Вандроўкі па Вільні.**
Выд. ТБК «Рунь», Вільня, 1998;

Чэслаў Кудаба.
**Па Віліі.**
Выд. «Полымя», Менск, 1992;

Юліяна Вітан-Дубейкаўская.
**Мае ўспаміны.**
Выд. НАША НІВА, Вільня, 1994;

Баляслаў Лесьмян.
**Пан Блішчынскі.**
Выд. НАША НІВА, Вільня, 1994;

– можна набыць, замовіць або атрымаць у падарунак у памешканьні рэдакцыі «Руні».

# ЛІТАРАТУРА

## Пераклад як форма абароны нацыянальнай культуры *

Ці дачакаемся мы таго сьветлага дня, калі ў нашай краіне, як у Арменіі, будзе ўсталяванае нацыянальнае сьвята – сьвята перакладу? Але такі гонар трэба заслужыць.

Дзень перакладу Арменія адзначае стагодзьдзямі, і можаце быць пэўныя, што за гэтым стаіць прызнаньне армянскім народам вялікай ролі перакладу ў захаваньні, абароне й разьвіцьці нацыянальнай культуры. Тым творам, зь якога пачалася армянская пісьмовасьць, быў пераклад Бібліі. Першая фраза, напісаная Мэсропам Маштоцам, аўтарам і перакладу, і самога альфабэту, быў пачатак "Выслоўяў Салямона: „Для пазнаньня мудрасьці й павучаньня, для зразуменьня выслоўяў розуму; для засваеньня дабрадумнасьці, правасудзьдзя, суда й справядлівасьці; простым людзям для кемлівасьці, юнакам для пазнаньня й разважлівасьці. Хто мудры, няхай слухае й памнажае навуку, а разумны няхай здабывае мудрыя парады; абы зразумець прыпавесьці й мудрагелістую мову, словы мудрацоў і загадкі іх“ (1:2-6).

І грузінская літаратура пачыналася зь перакладу Бібліі.

У Латвіі пачаткам унармаванай літаратурнай мовы лічыцца таксама пераклад – менавіта, пераклад Райнісам трагедыі Гётэ „Фаўст“. Было гэта напачатку нашага стагодзьдзя.

Зь перакладу Бібліі на старабеларускую мову й ейнага надрукаваньня пачалося ўсходнеславянскае кнігадрукаваньне. З 6 жніўня 1517 году, калі ў чэскай Празе з варштату Ф. Скарыны выйшла першая, перакладзеная ім, біблейская кніга Псалтыр, мы, беларусы, пачынаем адлік беларускага літаратурнага кніжнага перакладу.

Што датычыцца беларускай літаратурнай мовы часоў Скарыны, дык тады яна ўжо існавала. Існавала й багатая перакладная літаратура. Але гістарычная заслуга Скарыны ў тым, што ён першы паспрабаваў вывесьці кнігу з тупіка, у які яе загнала царква. Ягоная Біблія сталася канцом панаваньня царквы ў выдавецкай справе, і ўпершыню сьвятую кнігу пераклаў і надрукаваў не багаслоў, а сьвецкі вучоны й асьветнік, і выдаў яе „людзям паспалітым ко научению“ на зразумелай народу роднай мове. Ад тых даўніх часоў і да сёньняшняга дня беларуская мова зьяўляецца ключавым пунктам беларускай культуры наогул, вызначальным момантам існаваньня беларускай нацыі. І тады й цяпер.

Аднак нягледзячы на папулярнасьць Скарынінскай Бібліі ў Беларусі, Расеі і Украіне, яна ня сталася ў гісторыі беларускага народу тым сьцягам, вакол якога гуртаваўся б народ. Чаму? Не дазволілі, не дапусьцілі. Задушылі „гусіцкую ерась“ у корані.

У Беларусі не было самастойнай, незалежнай царквы, якая падтрымала б нацыянальныя інтарэсы й памкненьні беларусаў. Праваслаўная царква была падначаленая Маскоўскаму патрыярхату, і шматлікія спробы вырвацца з-пад яе апекі аказаліся марнымі. Каталіцкі касьцёл у Беларусі быў падначалены Варшаве й нават не рабіў аніякіх крокаў у бок незалежнасьці. Праваслаўная царква карысталася царкоўна-славянскаю й рускаю мовамі, каталіцкая – латыньню й польскай. У такіх умовах сьмелы чын Ф. Скарыны аказаўся „гласом вопиющего в пустыни“. Да сёньня пераклад Франьцішка Скарыны беларускімі цэрквамі не прызнаны й не прыняты да ўжытку ў царкоўным жыцьці. Апошнім часам Руская праваслаўная царква, сьціснуўшы зубы, мусіла прызнаць Скарынаву Біблію як „вялікі помнік беларускай культуры“. І толькі.

Нашым часам гэты пераклад набыў у Беларусі новае жыцьцё й служыць народу як ахоўны слуп беларускай культуры, як падмурак для новых працаў у галіне перакладу й, зрэшты, як пашпарт беларускае нацыі, як сьведчаньне ейнай багатай гістарычнай спадчыны, як неабвержны аргумэнт супроць сцьверджаньняў расейскіх шавіністаў, якія спрабавалі й спрабуюць пераканаць і самых беларусаў, і цэлы сьвет, што ніякага беларускага народу не было, што не было ў беларусаў ні гісторыі, ні культуры, ні мовы, а сапраўдная гісторыя, культура й літаратура пачаліся з 1917 году. Беларуская ж мова, маўляў, гэта толькі „немного испорченный русский язык“ (ці то, як кажуць нашыя суседзі-палякі, „зепсута польшчызна“), каторы трэба паправіць у той ці іншы бок. Тым часам гэтая „зэпсута польшчызна“, гэты „испорченный русский“ выстаяў стагодзьдзі, стаіць і сёньня, калі за яе ўзяліся не расейцы, не палякі, а „зэпсуці бялорусіны“, нашыя ўлады.

Такі вось лёс Скарынінскага перакладу ў Беларусі, якому антынацыянальныя сілы перашкодзілі стацца тым, чым ён вартасна мог і павінен быў стацца. У Беларусі беларускасьць пераважна жыла й жыве ў падпольлі. Але заўсёды жыла, вырываючыся напаверх часам вельмі нечакана і ў неспадзяваным месцы.

*Прывяду яшчэ адзін прыклад.*

Напачатку нашага стагодзьдзя вялікую сілу гучаньня набыў верш нашага народнага паэта Янкі Купалы „А хто там ідзе?“ Крыху нязвыклы беларускаму вуху паводле формы (сіляба-танічны верш), вельмі сьціслы ў аб'еме (пяць трохрадковых строфаў) умясьціў ён у сябе цэлую формулу беларускае нацыі, ейны лёс, ейныя памкненьні, ейную самабытнасьць. Каментаваць гэты верш – лішне. Ён выразны, ясны, недвухсэнсоўны. Гэты твор Я. Купалы зрабіўся ў свой час тэкстам гімна БНР, быў гімнам беларускага вызвольнага руху напачатку стагодзьдзя. Сёньня знайдзіце вы мне беларуса, які ня ведаў бы або ня чуў пра яго? Гэты твор у Беларусі ёсьць такі самы, як у Польшчы „Мазурка Дэмброўскага“.

І ў той самы час мала хто ў Беларусі ведае, што верш гэткай магутнай сацыяльна-выбуховай сілы ёсьць, па-сутнасьці, пераклад ці, дакладней, мастацкая пераробка, верш паводле матываў, зь якіх (матываў) засталася толькі зьнешняя форма, рытм руху, дыялёгавая манэра выказваньня, – паводле верша сэрба-лужыцкага паэта XIX ст. Гандрыя Зэйлера „Wjestle spewancko“. Працытую толькі адну страфу й вы зразумееце пра што гаворка:

**Stó ha z tych Lipsčanskich murjow won dźe?**
**Kak so ta črjódźička pomienuje?**
**Wjeseli Serbja su,**
**kiž z teho mėsta du –**
**tralala lalala, Serbja to su.**

І гэтак далей. Карацей, чародка сэрбскіх хлопцаў ідзе з-пад самага Лейпцыга. Яднае іх моцнае сяброўства й кампанейства, жаданьне разам павесяліцца. Куды яны так весела йдуць з горада, куды вядзе іх дарога? Хлопцы йдуць на піва. У аднаго карчмара водзіцца піва, смачнае, моцнае, як віно. Далей – хлопцы пілі-выпівалі, па новай налівалі, радаваліся жыцьцю – ну, было ўсё, што ў добрых людзей вядзецца і пад чарку кладзецца. І – хай жыве сяброўства, піва й радасьць! Звычайная песенька, якіх тысячы ў кожнага народа. І Купалава пераробка... Што лепшае? Пераклад ці арыгінал? Адкажу – усё лепшае, калі на сваім месцы, калі служыць сваю службу, бо

**Гэты даклад прачытаны аўтарам, вядомым беларускім перакладчыкам Васілём Сёмухам, на кастрычніцкім сэмінары для маладых перакладчыкаў у Ядвісіне пад Варшавай.*

# ДАКУМАНТАЛЬНЫ ФІЛЬМ ПРА БЕЛАРУСЬ

## з камэнтарам, рэфлексіямі й рэмінісцэнцыямі гледача

*Працяг са старонкі 1*

Нямеччыне падобныя да парадкаў беларускай „прэзыдэнцкай рэспублікі“, а таксама арышты дэманстрантаў й катаваньне іх праз кадэбоўцаў паказваюць ідэнтычнасьць парадкаў у гітлероўскай Нямеччыне й цяперашняй Беларусі. З увагі на тое, што Гітлер і ягоны ўрад былі асуджаныя міжнародным трыбуналам, як злачынныя, дык узоры, якія зь іх бярэ Лукашэнка, міжволі можна клясыфікаваць як злачынства перад уласным народам, і справу на яго можна было б накіраваць у міжнародны суд у Гаазе (Галяндыя). Так... Але хто гэта мог бы зрабіць? Тутака патрэбныя вялікія грошы на адвакатаў.

Фільм гэты мы, аўстралійцы, мелі нагоду паглядзець 4.08.98 на другім канале нашай тэлевізіі. Галоўны рэдактар фільму Джордж Нэгус, ягоны памочнік – маскоўскі рэдактар заходніх агенцыяў „Eric Cambell“. Напачатку фільма ён распавядае, што „беларускі прэзыдэнт праз сваё вар'яцтва хоча павярнуць стрэлкі гадзіньніка назад. Ужо нават цяпер Лукашэнка гэтага часткова дасягнуў, перасунуўшы Беларусь да перадгарбачоўскай эпохі. Як і ў тыя часы сёньня ў Беларусі няма свабоды слова. Выкарыстаньне беларускай гістарычнай сымболікі, бел-чырвона-белага сьцягу й гербу „Пагоня“, уважаецца паліцыяй Лукашэнкі як злачынства“

Затым у фільме паказаны суд над двума юнакамі, якія пісалі на мурох некарысныя для Лукашэнкі надпісы. Гэтыя хлопцы (Вадзім і Аляксей, абодвум па 19 гадоў) сядзелі ў клетцы за кратамі, а навокал іх стаяла восем функцыянэраў КДБ і адзін зь іх з аўчаркаю. Рэдактар фільму паведамляе, што „гэтыя хлопцы ўвогуле не злачынцы, ня злодзеі, не бандыты, не тэрарысты, – яны паводле заходніх мерак усяго толькі „graffiti“. Такіх хлапцоў у заходніх краінах сотні, калі ня тысячы. Малюнкі іхнія часам ствараюць клопаты, аднак ніхто ў нас не ўважае гэта за вялікі крымінал. Але паводле фільму паказаныя юнакі ў Беларусі лічацца крымінальнікамі.

Далей у фільме ідуць кадры з паходамі беларускіх спартоўцаў й прамовай Лукашэнкі, які кажа: „Гітлер сфармаваў магутную Германію, дзякуючы прэзыдэнцкай уладзе. Нямецкія парадкі фармаваліся напрацягу стагодзьдзяў. Пад Гітлерам гэтае фармаваньне асягнула найвышэйшага пункту, – і гэтае адпавядае нашай прэзыдэнцкай рэспубліцы й ролі ў ёй прэзыдэнта“.

Рэдактар „E. Cambell“ тлумачыць, што „парадкі цяпер у Беларусі гэткія самыя, як былі ў Савецкім Саюзе або ў гітлероўскай Нямеччыне. Аднаўленьне іх – гэта адступленьне назад у часе. Пра адступленьне сьведчаць крамы ў савецкім стылі, шматлікасьць міліцыянтаў“.

Надалей паказаны вайсковы парад з нагоды 7-ай гадавіны незалежнасьці Беларусі. Лукашэнкаўскі сьцяг, які разьвіваецца ў паветры, выглядае моцна сфальшыфаваным: бачна, што большасьць беларускага насельніцтва яго ня любіць, не дае яму належнай пашаны. За жаўнерамі ідуць калёны танкаў з ракетнымі ўстаноўкамі, за імі – трактары „Беларус“, найвышэйшае асягненьне беларускай індустрыі. І зноў маршыруюць спартоўцы. Перад імі выступае Лукашэнка: „Да здравствует нашэ Ацечэства – незавісімая Беларусь! Ура, таварішчы!“ На гэтае „ўра“ не чуваць ані моцных, ані слабых водгукаў. Галосны крык „ура!“ быў толькі самога „таварішча“ Лукашэнкі.

Аглядаючы гэты фільм, аўтара гэтых радкоў страсянула сутарга: яму прыпомнілася зіма 41/42 г.г., калі мы, заходнія беларусы, аказаліся пад апекаю Савецкага Саюзу, а, дакладней, НКВД. Тады стаяла страшэнна халодная зіма і ў люты мароз энкэвэдысты па начах вывозілі беларусаў на Сыбір: ні ў чым не вінаватых людзей, багатых і сярэдняй маёмасьці гаспадароў, беларускую інтэлігенцыю ды рознага кшталту ўраднікаў. Вывозілі сем'ямі, не беручы пад увагу ні малых дзяцей, ні старых. Як далёка тыя малыя й старыя даехалі на гэтым траскучым марозе? Адказу няма. Паводле міжнароднага права й гэта таксама ёсьць крымінальны акт. Мой бацька з маці ўжо рыхтаваліся да высалкі. Кожны з нас меў мяшок з прышытымі да яго паскамі, каб залажыць на плечы. У мяшку былі сухары, кавалак сала, абутак і вопратка (ня болей, здаецца, 25 кіляграмаў). А мне ж тады было толькі дзевяць з паловай гадкоў – і як бы я панёс той мяшок, мы ў той час ня думалі.

Гэткі самы гаротны лёс выпаў украінцам, літоўцам, палякам ды іншым нацыянальнасьцям змушаных жыць у Савецкім Саюзе. Прыход немцаў перапыніў гэтую злачынную акцыю саветчыкаў у справе нішчэньня беларусаў. Аднак пачаліся новыя непамыслоты. Былыя чэкісты, пераапрануўшыся ў цывільнае, хадзілі да багатых гаспадароў, якіх не пасьпелі вывесьці ў Сыбір, прасілі „покушать“, распавядаючы, што яны, маўляў, вязьні савецкіх турмаў. Каб увайсьці ў давер, праклінalі савецкі лад, а найгорай Сталіна. А затым распраўляліся з даверлівымі людзьмі...

Трэба сказаць, нават пры немцах адкрываліся ў Заходняй Беларусі беларускія школкі, дзе вучылі беларускай мовы, беларускай гісторыі й літаратуры. Дзеці на вуліцах сьпявалі беларускія песьні. А як цяпер выглядае „незалежная“ Беларусь?.. Аднак мы далёка адбеглі ад тэмы фільму.

На экране – дэманстрацыя ў Менску беларускіх патрыётаў. Ідуць калёны пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, скандуючы: „Незалежнасьць! Незалежнасьць!“, „Жыве Беларусь!“. На дэманстрантаў накідваецца зграя кадэбоўцаў і міліцыянтаў, якія пачынаюць жудасна зьбіваць іх, бязьлітасна катаваць палкамі, не зважаючы ні на век людзей, ні на кабетаў. Кадэбоўцаў так шмат, што здаецца, быццам Лукашэнка сьцягнуў для змаганьня зь мірнымі грамадзянамі цэлае войска. Здараецца, што аднаго дэманстранта зьбіваюць разам тры-чатыры кадэбоўцы. І нават калі зьбітых вядуць у „варанок“, дык праходзячыя паўз іх міліцыянты нечаканна агрваюць іх сваімі дубінкамі – надзвычайная пасія заядласьці! Бязлітасна й доўга зьбіваюць і тых, хто ўпаў на асфальт ..

Пра зьбіцьцё й расправы дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі зь беларускімі грамадзянамі, каторыя выступаюць за свае нацыянальныя правы, пратэстуюць супраць дзяржаўнага перавароту 1996-га году, – ведае цэлы сьвет. Ведае й пра тое, што значная большасьць пэрсанальнага складу КДБ – расейцы.

Хочацца запытацца, ці расейскія кадэбоўцы на службе ў Лукашэнкі не падумалі, што аднойчы беларусы могуць зрабіць рэванш і пры спрыяльным часе адплаціць ім за гэтыя зьдзекі? Беларусы маюць права абараняцца, бо гэта ёсьць такое права натуры.

Аб жахлівых падзеях у Беларусі усе людзі добрай волі маюць права заснаваць так погляд, што расейцы катуюць беларусаў. Аўтар гэтага „Critik-Artikle“ так ня схільны думаць. Мы верым, што пераважная большасьць расейцаў ня хочыць чыніць беларусам ані шкоды, ані крыўды. Аднак мы не разумеем, чаму дэмакратычныя сілы ў Расеі ня робяць дэманстрацыяў пратэсту супраць беззаконьня ў Беларусі? Чаму не ўплываюць на свой урад, каб той не падтрымліваў лукашэнкаўскі рэжым? Бо відавочна ж, што там, дзе нараджаецца нянавісьць, ня можа быць „дружбы“ паміж двума славянскімі народамі. Нэгатыўная грамадзка-палітычная сытуацыя ў Беларусі дасьць адно магчымасьць далейшых і горшых наступстваў. Беларусы ня могуць і ня маюць права саступаць і надалей паддавацца тыраніі, бо інакш яны аддадуць свой край на пагібель.

Мы, беларусы Аўстраліі, зьвяртаемся да ўсіх суайчыньнікаў, каторыя пражываюць у Расейскай Фэдэрацыі: чаму вы не ствараеце беларускія арганізацыі? Калі вы вы будзеце арганізаванай сілай, дык зможаце паўплываць на расейскі ўрад, каб ён не падтрымоўваў рэжым Лукашэнкі, мэтай якога зрабілася маньякальнае жаданьне зьліквідаваць усё беларускае.

Да нас даходзяць сумныя весткі, што ў Беларусі падходзіць да канца акцыя скасаваньня беларускіх школак ды іншых беларускіх навучальных установаў. Спэцыялісты ад русыфікацыі давялі наш край да таго, што беларуская моладзь пасьля сканчэньня беларускіх сярэдніх і вышэйшых установаў ня можа ўладкавацца на працу, бо практычна ўсё справаводзтва ў Беларусі вядзецца па-руску. І самыя бацькі з увагі на лепшую пэрспэктыву сваіх дзяцей у будучыні пасылаюць іх у рускамоўныя школкі. За гэткі стан адукацыі адказнасьць нясе прамаскоўскі лукашэнкаўскі ўрад.

Гэта няпраўда, што беларусы ахвотна адракаюцца ад свае роднае мовы – гэта толькі вынік палітычнай гульні спэцыялістаў ад русыфікацыі. Гэтую анармальнасьць на захадзе называюць па-рознаму: „расейскай акупацыяй“, „расейскай калянізацыяй“ ды па-іншаму. Гісторыя сама падкажа, якую назову гэтаму даць.

У менскай газэце „Голас Радзімы“ (N 31/98) доктар пэдагагічных навукаў Ефрасіньня Андрэева піша: „Перамагаць жа беларускую мову на яе этнічнай тэрыторыі не мае права аніякая мова, у тым ліку і руская“. Так выказваецца асоба расейскай нацыянальнасьці пра беларускую трагедыю.

Паганьбеньне чалавечых



правоў у Беларусі бязспрэчна палягае на амбіцыях высока стаючых чыноўнікаў, каторыя перадусім дбаюць пра сваю ўласную кар'еру без зважаньня на вынікі свае „дзейнасьці“. Паводле „Enciclopedia Britanica – 1991“ у Беларусі пражывае 13,5% расейцаў, 77,9% беларусаў, 8,6% іншых нацыянальнасьцяў. Прэзыдэнт, цяперашні ўрад паміма волі, як расейскамоўныя, прыналежаць да расейскай меншасьці й рэпрэзэнтуюць яе ў выглядзе расейскай мовы, культуры, гісторыі, звычаяў, традыцыяў ды іншага. Беларуская ж большасьць ня мае дастатковага палітычнага ўплыву на лініі абароны беларускасьці. Беларусы трактуюцца, як людзі другога гатунку ў сваім родным краі. Такое паняволеньне карэннай большасьці не сустракаецца нідзе ў сучаснай Эўропе ды, пэўна, і ў цэлым цывілізаваным сьвеце.

Мы, беларусы Аўстраліі, зьвяртаемся да нашых суайчыньнікаў за мяжою й да ўсіх людзей добрай волі з просьбаю аказваць дапамогу беларускаму народу ў ягонай барацьбе за вольную, незалежную, эўрапэйскую Беларусь. Беларус! Дзе б ты ня быў, што б ты не рабіў, – помні пра Бацькаўшчыну, пра край тваіх дзядоў і прадзедаў! Дапамажы ўратаваць беларускую нацыю ад зьнікненьня й гібелі!

**Ян Барысевіч**
*Аўстралія*

## З АБШАРАЎ ВКЛ

❖ Нягледзячы на абурэньне каталіцкага касьцёлу, у Летуве ўсё больш укараняецца заакіянскае сьвята „Хэлоўін“ (31 кастрычніка). Вуліцы Вільні й некаторых іншых літоўскіх гарадоў у гэты дзень запаўняюцца „мерцьвякамі“, „вампірамі“, „шкілетамі“ ды іншымі „нячысьцікамі“.

❖ Адной з галоўных перашкодаў на шляху ў Эўрапэйскую супольнасьць для Летувы зрабілася Ігналінская АЭС. Асьцярожныя эўрапэйцы патрабуюць ейнага закрыцьця.

❖ На чарговым лістападаўскім паседжаньні расейска-беларускага саюзу ў Яраслаўлі госьць з Сэрбіі Віслаў Шэшаль выказаўся за далучэньне Сэрбіі да вышэйпамянёнага саюзу.

❖ Філія кампаніі „Форд“ у Менску, што займаецца зборкаю аўтамабіляў маркі „Форд-эскорт“, прыпыніла іхнюю вытворчасьць у сувязі з крызісам на расейскім рынку збыту.

❖ Нягледзячы на абурэньне жыхароў, Летува працягвае жыць паводле гэтак званага „эўрапэйскага часу“. Цяпер у Літве цямнее ў 15 гадзінаў дня. А што будзе ў сьнежні?

❖ Напярэдадні Дзядоў была абрабаваная рэдакцыя газэты „Навіны“ (былая „Свабода“). Украдзены кампутар, прапаў архіў газэты.

❖ У кастрычніку адбылася паездка Аляксандра Лукашэнкі па расейскіх рэгіёнах, дзе ягоныя аповяды пра нібыта небывалы ўздым беларускай эканомікі былі сустрэтыя зь вялікім энтузіязмам.

❖ У Летуве пачалася выплата зьберажэньняў грамадзянам, якія былі „замарожаныя“ яшчэ з савецкіх часоў: пакуль што толькі інвалідам, састарэлым, ссыльным ды пацярпелым падчас студзеньскіх падзеяў 1991-га.

❖ Праблемы з роднай мовай існуюць і ў Летуве. На поўгода адхіленая ад эфіру вядучая праграмы навінаў на канале LTV праз тое, што падчас тэхнічных перашкодаў яна мацюкнулася па-расейску пры нявыключаным мікрафоне...

❖ У Беларусі пачалася замена грашовых купюраў, якія маюць яшчэ выяву „Пагоні“. У Летуве гэтаксама мяняюць купюры ў 1, 2, 5 літаў на манеты таго самага наміналу, але з „Пагоняй“.

❖ Уноч з 5 на 6 лістапада, напярэдадні чарговых угодкаў Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі, у невялічкім мястэчку Жодзіна Смалявіцкага раёну Менскай вобласьці ўзарваны помнік Леніну на цэнтральным пляцу. Жодзінскія камуністы пастанавілі адзначыць сваё сьвята ў іншым месцы: балазе ў горадзе знайшоўся запасны помнік правадыру рэвалюцыі.

*Падрыхтаваў* **Алег Аблажэй**

# ПОСТАЦІ

# Поле да працы ідэйнай...

**Лісты й паштоўкі Вацлава Ластоўскага да Людзьвікі Сівіцкай**

*Працяг са старонкі 1*

**Вільня, 26 студзеня 1914 г.**

Высокапаважаная панна Л. Сівіцкая!

Толькі што выслаў аткрытачку і ў дагон пасылаю пісьмо. Справа вось у чым: мысьль ваша, каб арганізаваць беларускую грамадку у Варшаві страшэнна важная. Ніхто дагэтуль за гэта сур'ёзна не браўся, а матэр'ялу ёсьць у Варшаві на гэта даволі. Трэба выкарыстаць студэнта Таберку, адшукайце яго адрас у адрасным бюро і Бабровіча. Бабровіч вельмі цікавы тып — ён непадрабляны дэмакрат, народнік, знаходзіцца пад вялікім уплывам расейскай ідэалёгіі. Шмат што ў ім будзе Вас разіць, але на гэта не зьвяртайця вялікай увагі, бо гэта чалавек дужа шчыры і дужа можа быць карысны для беларускай справы, асабліва для завязаньня беларускай арганізацыі паміж студэнтамі Варшаўскага унівэрсытэту.

Апрача гэтага хацеў я Вам напісаць аб адным нашым праекце работы беларускай у Гродні. Справа вось у чым: мы хочам адкрыць у Гродні беларускую кнігарню. Кнігарня такая рабілабы вялікую работу: 1) яна былыбы цэнтрам беларушчыны, 2) шырыла-б беларускія кніжкі і беларускую думку, 3) павялічыўсяб збыт кніжак у Гродні у разоў колькідзесят. Прыклад гэтага мы маем на нашай кнігарні: пакуль не было кнігарні прадажа кніжэк ішла дужа слаба, а цяпер прадажа павысілася у разоў 50. За два месяцы, напрыклад, прадалі мы кніжэк за 700 блізка рублёў (студзень і снежэнь). Адным словам, я лічу, што ў Гродні можна было-б у год прадаваць кніжэк на рублёў 1000. Лічачы з гэтай суммы 30% уступкі, асталося-б даходу 300 руб. Калі яшчэ трымаць у кнігарні пісьменныя прыналежнасьці, то даход, пры арганізацыі збыту пісьменных прыналежнасьцей гімназістам, можна лічыць на 1000 руб. даходу. Да таго-ж мы даём на устройства і наём магазыніку 100 руб. адразу і ўсе кніжкі на камісію. Кніжэк цяпер будзе прыбываць многа, бо у Вільні адкрылася Выдавецтва, каторае будзе выпушчаць кніжку за кніжкай з друку. Гэта дае надзею, што справы кнігарэнь нашых чым далей будуць лепшые.

Вось з гэткім праектам езьдзіў адзін наш чэлавек у Гродню да Кс. Н. і аказываецца, што там ужо ёсьць нават пазваленьне на кнігарню, але на польскую. Хочуць адкрыць польскую кнігарню з беларускім нібыта аддзелам. Думка у іх здаецца такая: трэба навучыць людзей чытаць па-польску, каб маглі чытаць па-беларуску! І гэта кажуць нібыта сьвядомыя беларусы. Ці не маглі-бы Вы у гэтай справе напісаць у Гродню? Польская кнігарня у Гродні нашай работы рабіць ня будзе, так сама як не рабіла нашай работы і кнігарня жыдоўская. Кніжкі нашы у ёй будуць, як нелегальшчына, схаваны ў куточку і іх ніхто ня будзе бачыць. Вясьці-ж работу на грунце польскай кнігарні нашу, гэта псуць беларускую работу, бо і так даволі тых гутарак маем, што беларуская справа — гэта польская інтрыга. Работу беларускую можна рабіць толькі на беларускім грунце, а не на расейскім і ня польскім. Пісаў-бы я яшчэ многа аб гэтым, але ніхай даскажэ рэшту Вам Вашэ беларускае пачуцьце і крыўды нашага народу. Калі-ж дойдзе якім дзівам да скутку праект Бел. Кнігарні у Гродні, пры такой беларускай ідэалёгіі тамтэйшых беларусаў, то будзьце ласкавы настаяць на тым, каб у кнігарні сядзеў сьвядомы беларус, каторыбы мог і падагітаваць людзей і абараніцца ад нападак, калі нехта будзе выстаўляць нешта зайшоўшы. На гэтым і кончу сваё пісьмо.

Цісну руку. Ваш

*В. Ласт.*

**Вільня, 20 студзеня 1915 г.**

Шаноўная Пані!

Ну зрабіў наганяй і „Н. Н." і „Беларуса„ мабыць цяпер ужо будуць высылаць акуратна! N2 „Н. Н." сканфіскавалі, дзеля гэтага не чакайця яго. Была ў ім стацьця „Думкі", у каторых аўтар разважаў, што жыць паскудна на агул на сьвеце, а ў нас і пагатоў таго і, што было б лепей, каб у нас было так, як заграніцай шмат такога, што там ёсьць, а у нас чаго німа. Цэнзар ваенны прапусьціў, а некаму не падабалася, усё гэта — фініш — канфіската.

Вайна нарабіла шмат глуму і ў нашай рабоце; праўда, кнігарня ідзе, але куды горэй чым у тым гаду а гэтай парэ, хоць прыметна, што справа разьвіваецца, бо пакупцоў прыбывае, але на меншыя кніжэчкі. Многа цяпер ужо прыходзіць такіх „дзядзькоў", каторые пытаюцца соньнікаў, аракулаў, пісьмоўнікаў, а такжэ кніжэк гісторычных. Гэта ўсё паказывае, што літэратура наша пачынае памалу заваёвываць сабе мейсца у штодзённым жыцьці нашага беларускага работніка і селяніна і што ён кіруецца здаваліваць усе свае духовыя патрэбы сваёй, беларускай кніжэчкай. Гэта і цікава, і прыемна, што справа шырыцца, расьце... Шкада толькі, што гэтых патрэб нашага народу мы ня здолеем здаволіць, бо німаема ні так званай „лубачнай" літаратуры, ні папулярнай навуковай, а гэтай апошняй што раз адчуваецца ўсё больш і больш недахват. Німа аўтараў навучных кніжак, німа ў нас і выдавецтваў, каторыя-бы выдавалі хоць тое, што ёсьць! Праўда, ёсьць у нас выдавецкіе суполкі і ў Вільні, і ў Пецярбурзі, і ў Мінску, але карысьць з іх невялічка, бо выдаюць наагул сьмешна мала. Пытаецця, — якіе варункі дае выдавецкае віленскае таварыства і мне прыходзіцца з жалем у сэрцы сказаць, што ніякіх — г. значыць: выдавецтва ужо немае грошы і выдаваць кніжэк ня можэ, з трудом кончыць разпачатые выданьня. Прычына, застой у прадажы кніжэк выданных выдавецтвам. Гэтак — то у нас чуваць у Вільні. У Петраградзе весялей — але ізноў такі не залішне вясёла. Найбольш парушыла справу у Петраградзе Ваша колежанка панна Голуб (пасхаронь яе Божэ!). Яна усіх там разварушыла, усіх ачаравала сваей шчырасьцю да справы, да працы каля яе і ўсіх вядзе за сабой, сама нідзе уперад не высуваючыся, адным словам, робіць работу па апостальску, ідэйна, скромна і шчыра. І работа спорыцца, разкідаецца сьвядомасьць беларуская па студэнцкай маладзежы, а ад яе пераходзіць на гімназіі і далей. Але ў канцы канцоў на вялікую массу беларусоў у Пец. усёжтакі замала там актыўных сіл, замала працаўнікоў.

Страцілі мы пляцоўку у Пулувах дзякуючы таму, што інстытут перараве́зен адтуль, але затое зарганізавалася маладзеж у беларускае землязтва у Маскве і Томску. Адным словам як на цяжкі год плён нязгоршы, хоць само сабой голаду вялікага, які разьядае Беларусь, не здаваліваe. У гэту суботу у нас у Вільні будуць іграць беларускую аперэтку „Залёты" Марцінкевіча. Дужа арыгінальная і цікавая аперэтка. Добра было-б каб Вы пад'ехалі на гэты дзянек.

Затым кончу сваю апосталу. І так даволі накрэмзаў. Калі-бы Вас што цікавіла у якой справе, буду дужа ўдзячэн, як захочэця да мяне напісаць, пастараюся ўсё, што магу разтлумачыць, разумеецца тое толькі, што ведаю, што і як. Затым пасылаю Вам ад сябе і ад усіх нашых павітаньне і жаданьня Вам усяго найлепшага.

Ваш *ВЛаст*

**Вільня, 26 лютага 1915 г.**

Шаноўная панна Людвіка!

Шырэй працаваць Вы здолееця толькі на шырэйшым полі. І дзеля гэтага, мне здаецца, трэба былобы перш наперш адкрыць пчэлярскае таварыства, мо найлепей у Вільні ці Гродні, праца каторага абхоплівала-бы прынамні губерні: Гродзенскую, Віленскую, Мінскую, Магілёўскую. З канторай і складам



*Гродзенскі гурток беларускай моладзі. 1909. У першым радзе: першы зьлева З. Абрамовіч, трэці зьлева Бычкоўскі. У другім радзе : другая зьлева Л. Сівіцкая, трэці – кс. Ф. Грынкевіч, чацьвёртая – А. Сапянка.*

пчэлярскіх прылад, у каторым з гэтых гарадоў. Тады у Вас знайдзецца практыка па Вашай спэцыяльнасьці, а склад можэ даваць, апрача практыкі, сам па сабе ня згоршы даход. Аддзел такі можна зрабіць „Расейскаго Імператарскаго Общества Пчеловодства". Яны маюць фірму, даюць падмогу грашамі і крэдыт на тавары, а што найважнейшае, не ўтыкаюць у гэту справу палітыкі, а праз гэта можна рабіць як лепей, можна устраіваць курсы і ў мейсцовай мове, выдаваць брашуры, адозвы, мець лекцыі у мясцовай мове, устраіваць выстаўкі і што іншае. Калісь, гады два таму, я насіўся з гэткім праектам, г. зн. каб адкрыць такое таварыства, але тады не было сваіх людзей, таварыства можна было адкрыць, але яно не было-б беларускае і вось я дзеля гэтага закінуў думку да лепшых часоў, да тых часоў, калі у нас будуць свае людзі. Мо ўжо цяпер і можна было-б узяцца за гэту працу? У вашым садзе па вайне можна было-б устроіць паказную пасеку для Гродзеншчызны, у Віленшчызьне знайдзецца гэтак сама чалавек, каторы будзе утрымліваць такую пасеку, у Міншчыне такжэ, цяжка толькі з Магілёўшчынаю. Але не безнадзейна і там. Абвесткі у газэтах, як мне здаецца, Вам практыкі не дадуць, хоць іх даваць само сабой можна праз кнігарню. А такое таварыства дало-б і практыку, і даход, без чаго крыўдна жыць на сьвеце і да чаго кожны чэлавек павінен кіравацца. Панна Людвіка, абдумайця мой праект і напішыця свае думкі. Я веру, што мой праект добры, бо і дае поле да працы ідэйнай, і да падняцьця эканамічнага нашай старонкі.

„Саха" выходзе, хоць заплаціла у гэтым гаду ужо 1000 (тысячу) рублёў штрафу. Хочаць задушыць! Але пакуль што дыхае. Уласаў узят у войска. Вядзе „Саху", як і перш у Мінску вёў, Левіцкі, а у Вільні я вёў (да N13).

Праца выдавецкага таварыства гэта быў фаервэрк на нашым гарызонці, засьвяціўся, заіскрыўся і згас. Я веру толькі у упорную працу і ў карысьць яе. Само сабой што і выдавецкае таварыства магло ня быць фаервэркам, а распаліць вялікае вогнішча асьветы, але павінны былі за гэта узяцца, мо, іншыя людзі, ды іначэй узяцца. Сумна і брыдка вышла з таварыствам, але аб гэтым будзе яшчэ гутарак даволі, а у лісце я не хачу гэтага развіваць, не хачу такжэ свой асуд даваць людзям і працы іх, бо лічне блізкі гэты людзі мне, ніхай справядліва разважуць з часам людзі са старань.

„Наша Ніва" выходзіць, хоць другі нумэр і быў канфіскаваны, а у іншых нумэрах многа белага мейсца.

Беларуская праца у Вільні ня можна сказаць, каб дужа ладзілася. Віна так і ў саміх беларусоў і ў суседзяў нашых, асабліва з заходу, каторыя усе сілы напраўляюць, каб у Вільні разшырацца, каб Вільня была Палякаў калёніяй, польскім цэнтрам...

А цяпер у мяне да Вас просьба: вядома што часьць Гродзенскай губерні зруйнавана варожай навалай і што зруйнаваным беларускім вёскам і сёлам патрэбна помач, помач гэту можа было-бы даць (крыху гэтай помачы), але трэба выказаць чорна па белым, дзе што зруйнавана, якія вёскі, сёлы, якая бяда, недастатак у якой ваколіцы паміж беларусамі. Калі гэта можна было-бы сабраць і калі-б, разумеецца, пачтовая цэнзура прапусціла ліст, то я дужа быў бы Вам удзячэн, бо акурат гэтымі днямі звярталіся да нас ад „Врачебно-Продовольственнаго Общества" пытаючыся аб гэтым, і мы ніякіх данных ня мелі.

З пашанай

*ВЛаст*

**Вільня, 12 чэрвеня 1915 г.**

Паважаная Пані!

Ахвотна адказываю на Вашу пісульку і дужа рад быў-бы спаткаць Вас у Вільні, але на Купалу мусі нічога ня будзе. Не такія часы. Затое збіраюцца тутака нешта зрабіць (прастаўленьне) мусі пасьля Купалы. Дзень яшчэ не ўсталеў і дзеля таго не магу Вам акуратне сказаць, але як што наладзіцца напішу. Можа б Вы сабе якую работу вызначылі (дэкламацыю ці што іншае) было-б нам вельмі на руку, бо цяпер так людзі растаўкліся, што цяжка сабраць, каб што зрабіць.

Рад буду мець ад Пані абшырны ліст. Сьціскаю Вашы ручкі. Шчыра

*ВЛаст*

## УСПАМІНЫ

# ВУЧАНЬ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

***Гэты дзядуля не падобны да звычайных беларускіх пэнсіянэраў з РБ. Па-першае, ён не падтрымлівае саюз Беларусі з Расеяй. Па-другое, ён ня любіць Сталіна, Леніна й камуністычныя ідэі. Па-трэцяе, ён любіць бел-чырвона-белы сьцяг і герб „Пагоня".***

***Пятро Мікалаевіч Лаўрычонак нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Масьціішчы Мёрскага раёну. З 1931 па 1938 год вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Падчас вайны патрапіў у брыгаду Гіля-Радыёнава, якая была сфармаваная напачатку 1943 году з палонных савецкіх жаўнераў. У жніўні 43-га Гіль-Радыёнаў са сваімі амаль трыма тысячамі ўзброеных байцоў перайшоў на бок партызанаў, разграміўшы нямецкі гарнізон у Каралеўшчыне. У партызанах дваццаціча-тырохгадовы Пятро Лаўрычонак быў моцна паранены ў галаву й эвакуяваны ў шпіталь у Горкі. Пасьля выздараўленьня патрапіў у Другую гвардэйскую танкавую армію. Перамогу сустрэў пад Бэрлінам. Пасьля вайны скончыў Полацкую пэдвучэльню і ўсё астатняе жыцьцё працаваў настаўнікам у вёсцы Дрыгучы на Дзісеншчыне. Зараз жыве ў Наваполацку.***

***З размовы зь ім мы распачынаем сэрыю артыкулаў, прысьвечаных васьмідзесяцігодзьдзю стварэньня легендарнай Беларускай Віленскай Гімназіі.***


*Пётра Лаўрычонак (справа) з аднаклясьнікамі Іванам Рагачом (пасярэдку) і Янкам Станкевічам. 1933.*

**Чаму Вы, хлопчык зь Мёршчыны, пакінуўшы бацькоў, выправіліся вучыцца ў далёкую Вільню, ды яшчэ ў Беларускую гімназію?**

Нашая сям'я была бедная. Даць мне хоць нейкую адукацыю бацькам было цяжка. У Вільні жыў мой дзядзька Кузьма Крук, родны брат маёй маці, ён і забраў мяне вучыцца ў Віленскую гімназію. Дзядзька быў адукаваным чалавекам, скончыў Дрысенскую гімназію, затым Іркуцкую школу прапаршчыкаў, меў чын штабс-капітана. У Вільні ён браў актыўны ўдзел у тагачасным беларускім руху, нават балатаваўся ў Польскі сойм. Я жыў у інтэрнаце пры гімназіі. Дырэктарам у той час быў Радаслаў Астроўскі, выкладалі ў нас Барыс Кіт, Алёна Сакалова-Лекант, Рыгор Шырма, Хведар Ільяшэвіч ды іншыя. У нас была адумысловая вучнёўская форма, на рукаве нашыўка з нумарам гімназіі „N935": калі раптам набедакурым у горадзе – адразу паведамляюць у гімназію. Навучаньне вялося пераважна па-беларуску. Зразумела, вялікая ўвага надавалася беларускай гісторыі, літаратуры, нас вучылі любіць і шанаваць Беларусь.

**Вы, зразумела, вучыліся пад бел-чырвона-белым сьцягам і гербам „Пагоня". Ці добра гімназісты ведалі гісторыю гэтых сымбаляў?**

Вядома, ведалі й шанавалі родныя сымбалі. У нас у гімназіі быў добры аркестар. Дык мы часта маршыравалі пад яго па вуліцах Вільні й заўсёды зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Польскія ўлады за гэта нас ня білі й не лічылі гэта несанкцыяванымі шэсьцямі. Часта мы наладжвалі літаратурныя вечарыны, на якія прыходзіў Максім Танк, у той час ён таксама жыў у Вільні. Вельмі яго любілі навучэнцы гімназіі, на „гура" сустракалі.

**Куды закінуў лёс Вашых аднаклясьнікаў? Ці сустракаліся вы пазьней?**

Доўгі час не магло быць ніякай размовы пра сустрэчы. Амаль усе нашыя настаўнікі ў Савецкай Беларусі лічыліся ледзь ня ворагамі народу – буржуазнымі нацыяналістамі, мы стараліся не нагадваць, дзе вучыліся й хто нас вучыў. І толькі ў 1981 годзе я спаткаўся з маім аднакласьнікам Лявонам Луцкевічам. Лявон прыехаў да знаёмага настаўніка ў Германавічы. Тут недалёка ад Наваполацку мы й сустрэліся. Затым Лявон арганізоўваў сустрэчы былых гімназістаў у Вільні й я тры разы на іх езьдзіў. Там пабачыўся зь Іванам Рагачом, які цяпер жыве ў Каралеўцах Вілейскага раёну, зь Люсяй Сіглюк (жыве ў Баранавічах), Леванідам Каралём зь Вільні ды іншымі, хто ацалеў у ліхалецьці, якое выпала на нашую долю.

**Ці былі якія канфлікты паміж кіраўніцтвам гімназіі й польскімі ўладамі?**

Канфлікты былі. Палякі баяліся, што гімназія падпадзе пад уплыў КПЗБ. Аднойчы мы, гімназісты, застрайкавалі (патрабавалі лепшага харчаваньня) – дык да нас прыехаў віленскі ваявода ген. Бацянскі, які так і сказаў: „Я ведаю, што вашае сэрца хіліцца да Менску, але вы мусіце падпарадкоўвацца польскім уладам!" Пасьля гэтага ў нас зьявіліся два выхавацелі-палякі, агенты дэфензывы, якія сачылі за нашымі паводзінамі. Некаторыя прадметы, напрыклад, „Агульную гісторыю" й „Геаграфію Польшчы", пачалі выкладаць па-польску.

**Калі Вы вярнуліся зь Вільні ў родную вёску, чым займаліся?**

Працаваў на гаспадарцы ў бацькоў. У жніўні 1939 году за спробу перайсьці савецка-польскую мяжу я быў арыштаваны польскімі памежнікамі й меўся быць адпраўленым у польскі канцэтрацыйны лягер. Але тут выбухнула польска-нямецкая вайна й мяне вярнулі да бацькоў бяз права кудысьці выяжджаць. А ўжо 17 верасьня таго самага году пачалося зьяднаньне Ўсходняй і Заходняй Беларусі. Мяжа праходзіла па Дзісьне. У гэты дзень савецкія войскі навялі пантонную пераправу й рушылі на Паставы. У Дзісьне была створаная камэндатура новай улады. Усіх польскіх чыноўнікаў пахапалі. Пачалі ствараць калгасы. Мой бацька дужа не хацеў ісьці ў калгас. Ішлі ў калгас і ня ведалі, што гэта такое, бо й пасьля ўзьяднаньня на савецкі бок нас не пускалі. Яшчэ й цяпер пазаставаліся дзоты ўсьцяж той мяжы.

Пры Саветах я пачаў настаўнічаць. Пра пачатак савецка-нямецкай вайны пачуў па нямецкім радыё. Пераключыў прыёмнік на Маскву – пяюць песьні, гучыць жыцьцярадасная музыка, а пра вайну нічога. Таму я таксама маўчаў пра нечаканую навіну, бо маглі абвесьціць панікёрам. У краме купіў цукру, гарэлкі, солі й іншых прадуктаў харчаваньня. Затым па маскоўскім радыё выступіў Молатаў і ўсе загаварылі пра фашысцкі напад. А напачатку ліпеня на Дзісеншчыне былі ўжо немцы.

Пасьля таго, як зьявіўся загад нямецкіх уладаў аб тым, што ўсе настаўнікі мусяць вярнуцца ў школы, нічога іншага не заставалася, як зноў узяцца за настаўнічаньне. У 1942 годзе быў растраляны мой дзядзька Кузьма Крук. У сьмерці ягонай былі вінаватыя ня столькі немцы, колькі палякі: апошнія папралазілі ў розныя акупацыйныя начальнікі й зводзілі старыя рахункі зь беларусамі. І толькі, калі ў Менску перамаглі беларусы, у глыбінцы нам стала лягчэй дыхаць. Увогуле на 1943 год на Дзісеншчыне не было ніякіх партызанаў. Была мясцовая ўлада: старасты, солтысы, была паліцыя (хадзіла ў чорных шынялях зь белымі павязкамі на рукавох). І ні паліцыя, ні немцы не лютавалі. У нашай сям'і немцы неяк забралі каня, але далі расьпіску й паабяцалі па-магчымасьці вярнуць. Праз нейкі час нямецкаму афіцэру іншай часткі я паказаў тую расьпіску, і афіцэр загадаў аддаць мне паранёнага каня, які неўзабаве ачуняў і добра папрацаваў на нашай гаспадарцы.

Партызанскія атрады пачалі ствараць летам 43-га. У наш раён з Расеі прыйшло 25 вайскоўцаў і пачалі ствараць атрад, праводзіць мабілізацыю. Я ж патрапіў у атрад Гіля-Радыёнава. Начаваў неяк у сябра па гімназіі, на два гады старэйшага за мяне Валодзі Стомы ў ягонай вёсцы, аж пад раніцу завіталі туды „радыёнаўцы". Мясцовыя сваіх сыноў адкупілі самагонкаю, а мяне паставілі пад ружжо. Неўзабаве пасьля гэтага Радыёнаў перайшоў на бок партызанаў і мы сталі змагацца з тымі, хто даў нам зброю. Вось тады й пачаўся чорны час для мірных жыхароў. Пад Ушачамі я быў паранены ў галаву й эвакуяваны ў шпіталь у Горкі.

Пасьля выздараўленьня служыў у Другой гвардэйскай танкавай арміі. У мае абавязкі ўваходзіла абслугоўваньне тэхнікі – танкавых гарматаў і кулямётаў. Дарэчы, нашая армія мела на ўзбраеньні пераважна замежную тэхніку: амэрыканскія танкі „шэрманы", машыны „фарды" й „студэбэкеры", амэрыканскія кулямёты „брэна" й ангельскія „бэза". Усё гэта я ведаў, як „Ойча наш". Калі танк у час бою падбівалі, мне часта даводзілася паўзьці да яго пад агнём і рамантаваць. Шмат было створана легендаў пра савецкую вайсковую зброю, але, як спэцыяліст, скажу, што тагачасная амэрыканская зброя была лепшая. Вайну я скончваў у санітарным узводзе, але й там былі амэрыканскія палаткі, лекі, тушонка.

**Ведаю, Вы вызвалялі Польшчу. Як палякі сустракалі савецкае войска?**

Сустракалі добра, як кажуць, „са сьлязьмі шчасьця на вачах". Цывільныя жыхары ва ўсім дапамагалі, асабліва нам, бо санузвод працуе на вайне і ўдзень, і ўноч. Дапамагалі даглядаць раненых, хаваць забітых. Але не дазвалялі хаваць на сваіх могілках пад чырвонымі зоркамі. На могілках у іх павінныя быць крыжы. Поруч з намі ваявалі палякі з дывізіі Тадэвуша Касьцюшкі. Немцы вельмі балюча ўспрымалі, што палякі іх б'юць. Рускія, хай сабе, але палякі... Я гэта ведаю, бо мне даводзілася допытваць палонных немцаў. Віленская гімназія дала мне добрыя веды ў нямецкай мове.

Пасьля перамогі я да восені знаходзіўся ў Нямеччыне. Чым мы там займаліся? Ды нічым: бавілі час за гарэлкаю. Восеньню мяне камісавалі. Вярнуўся дамоў. Паступіў вучыцца ў Полацкае пэдвучылішча, якое тады месьцілася ў Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры.

**Што зь сябе ўяўляла настаўніцтва ў Савецкай Беларусі ў першыя пасьляваенныя гады?**

А нічога добрага. Суцэльнае бальшавіцкае прамываньне мазгоў. Яны, райкамаўскія, ноч напралёт п'юць, а ўраніцы вучаць нас пэдагагічнай працы. Самае галоўнае – вывучыць біяграфію вялікага Сталіна й пашыраць веды пра „бацьку народаў" у масах. Дзякуй Богу, я выкладаў у вёсцы Дрыгучы на Дзісеншчыне геаграфію й нямецкую мову, а мая жонка працавала фельчаркай. Школа наша была ў былым панскім маёнтку, ранейшая гаспадыня якога, пані Зофя Каржанэўска-Дуглясава жыла ў ім да 1939 году, і тое толькі ўлетку. Зіму праводзіла ў Вільні, Варшаве, Парыжы, на Міжземным моры. Прыяжджала на легкавым аўто. У бібліятэцы мела толькі францускія кнігі. Вельмі баялася бальшавікоў. Адразу за панскім садам ішла польска-савецкая мяжа, дык ейны маёнтак быў падобны да ваеннай фартэцыі, добра ўмацаванай калючым дротам.

**Што пабудзіла Вас на старасьці гадоў зноў уключыцца ў беларускую працу?**

Неяк, калі наш прэзыдэнт пачаў зьдзекавацца зь беларускай мовы, з нацыянальнага гербу й сьцягу, я ня вытрываў і прыйшоў на паседжаньне Наваполацкай філіі Таварыства беларускай мовы. Прачытаў у гарадзкой газэце пра сход ТБМ і прыйшоў. Нельга сёньня быць у баку. І, дарэчы, я ў жыцьці сваім ня бачыў ніколі паліцаяў, якія насілі б на рукавох павязкі з „Пагоняй". Гэтага па-просту не было!

*Гутарыў* **Алесь АРКУШ**

# ЛІТАРАТУРА

## Ды веру, што прыйдзе мой час усё роўна

***

У край, дзе навокал бяскрылыя,
бязтварыя і безхрыбетныя,
ніколі ня вернуцца з выраю
птушкі.

І з краю, дзе ходзяць і плодзяцца,
чырвона-зялёныя нехрысьці,
ніколі ў нябёсы ня вернуцца
душы.

### Брунэтка

У позірку юнай брунэткі
я бачыў то лёд, то агонь,
ды толькі ўсё роўна далонь
лягла неўпрыкмет на каленкі.

Нібыта савецкі разьведчык,
ці нават жыдоўскі шпіён...
ціхутка другая далонь
паўзла, агаляючы плечы.

І восьужо ў позірку гэтым,
дзе бачыў я лёд і агонь –
жаданьне... і чутны ледзь стогн
на вуснах у юнай брунэткі.



*Здымак* **Генадзя Жынкова**

### Гародня

Сьвятлом сваіх вокнаў ня грэюць
дамоў непрыгожыя скрынкі.
Заснула пад сьнегам Гародня –
хай сьніцца ёй травеньскі дождж.

Стаяць, як капліцы старыя,
маркотныя будні прыпынкаў.
Тралейбус, пусты і халодны,
ляціць у бязьлюдную ноч.

У цемры, сьляпой і марознай,
пішчаць правады, быццам ведзьмы,
ляжаць у маўчаньні лакорным
дарог ледзяныя крыжы.

Такімі хвілінамі можна
любіць і ў той час ненавідзець,
нібыта жанчыну, свой горад,
знаёмы і разам чужы.

### Зямля

Зямля – вялікая магіла.
Што я раблю на ёй, жывы?
Ізноў пакінутыя сілы
Мяне знайшлі сярод травы.

Сярод травы сухой і цьвёрдай,
падобнай з твару на пясок,
я выпіў новыя акорды
другога „я“, нібыта сок.

Нібыта сок, разьліта вечнасьць –
па кроплі падае на дол.
Чамусьці хочацца прылегчы
душой на хірургічны стол.

На хірургічны стол надзеі,
які пад цяжарам маім,
нібы вада пахаладзее,
пасьля разьвеецца, як дым.

Бы дым кастра і ціхай ночы,
празрыста-шэры, як ральля.
Мне ціхім голасам дзявочым
пяе спрадвечная зямля.



**Анатоля Брусевіча** я сфатаграваў на ганку Гародзенскага музэю Максіма Багдановіча – паэта, чый почырк, стыль і вершаванае дыханьне найбольш блізкія Анатолю. Век Анатоля таксама Багдановічаўскі: ён студэнт 5-га курса пэдунівэрсытэту. Як і Багдановіч, Анатоль Брусевіч – паэт наскрозь „гарадзкі“, аднак празь мяккі лірызм і мелядычнасьць ягоных строфаў праглядае іронія да сябе й сьвету й аднаму яму ўласьцівае гучаньне: „я выпіў новыя акорды другога „я“, нібыта сок“...

**А. М.**

### Ліхтар

Па дванаццатай. Ноч. Ані гуку, ні зоркі наўкол.
Цені дрэваў у сьне падпіраюць нябесную столь.

Галаву нахіліўшы, стаіць адзінокі ліхтар.
Вецер дзіка сьмяецца, кідае лісьцё яму ў твар.

Хутка згасьне і ён, каб надоўга пакінуць мяне.
Пахаваецца ўсё, зачыніўшыся ў чорнай імгле.

### Падаю ў неба

Падаю ў неба, і брудныя плошчы
з кожным імгненьнем вышэй.
Падаю, моцна заплюшчаўшы вочы,
каб не глядзець на людзей.

Падаюць тыя, хто здолеў заплюшчыць,
але ня страціць вачэй.
З кожным імгненьнем і людзі, і плошчы
тонуць глыбей і глыбей.

### Я не паэта

Я не паэта, о крый мяне Крышна!
Паэты пракалываць вушы ня сьмеюць.
Хоць выснаваў неяк маленькую кніжку,
завуся я толькі Толік Брусевіч.

Паэты працуюць ва ўнівэрсытэце.
Напрыклад, Пацюпа, Мазько, Петрушкевіч.
А я ўсяго толькі бедны студэньцік –
от, ведама, нейкі Толік Брусевіч.

Ды веру, што прыйдзе мой час усё роўна.
Напэўна, тады пазайздросьціце ўсе вы,
Калі замест Леніну выставяць помнік
Шчэ большы і з надпісам **Толік Брусевіч.**

## Пераклад як форма абароны нацыянальнай культуры

*Працяг са старонкі 2*

кожнае ўпісанае ў культуру свайго народу. Менавіта добры, творчы пераклад стаецца фактарам абароны нацыянальнай культуры, мовы, годнасьці народу. Верш Гандрыя Зэйлера мае ў сэрба-лужыцкай мове сваю вагу, верш Я. Купалы – сваю. І ў кожнага аказаліся свае непаўторныя функцыі й свае ўплывы. Як прадстаўнік перакладчыцкага цэху я асабіста ганаруся тым, якая вялікая вага ў Купалаўскага перакладу.

І ў заключэньне я хацеў бы зьвярнуцца да сучаснай сытуацыі ў Беларусі й да ролі перакладу ва ўмовах таго, што ў Беларусі адбываецца. Мною й большасьцю маіх калегаў абарона культуры бачыцца найперш у абароне мовы, абароне дзяржаўнасьці й незалежнасьці. Дзьвесьце гадоў гэтае зьвяно нашае культуры паслаблялася, разбуралася, падкопвалася з адзінай мэтай – зьнішчыць яго, асыміляваць народ. Пакуль што гэта нікому не ўдалося. Але сёньня шматвекавым супрацівам і эканамічным крызісам народ наш моцна паслаблены, і баль правяць шавіністычныя сілы, якія бачаць свайго ворага ў кожных праявах беларускасьці – і найперш у мове.

Нашая ўлада вуснамі найвышэйшага ўрадоўца адкрыта абвяшчае: „Я сваё гасударства за цывілізованным мірам не паведу!“ (З тэлевыступленьня А. Лукашэнкі па БТ у гонар двухгодзьдзя ягонага прэзыдэнцтва. 10 ліпеня 1996 году). Тут можна толькі разявіць рот і памаўчаць. Нашая ўлада тымі самымі вуснамі сьцьвярджае: „Сегодня іменна в Беларусі палажэна начало самому дземократічэскаму працэсу в міре“ (З выступленьня А. Лукашэнкі перад членамі Верхняй палаты Нацыянальнага сабраньня 10 ліпеня 1997 году). „Людзі, каторые гаварят на беларускім языке, не могут дзелаць нічэво, патаму что па-беларускі нельзя выразіць нічэво велікаво. Беларускі язык – бедный язык. В міре сушчэствуют толька два велікіх языка – рускій і англійскій“ (З выступленьня А. Лукашэнкі на сэсіі Гомельскага гарсавету 1 сьнежня 1994 году).

На якой жа мове гаворыць улада з народам? „Рускій язык наполнен за савецкае время, за семдзесят, ужэ восемдзесят лет нашэй обшчэй жізьні, наполнен большэ, чэм наполовіну душой другіх народов . І ат этава насьледства мы ні в коем случаі не должны атказывацца“ (З выступленьня А. Лукашэнкі на першым зьезьдзе настаўнікаў Беларусі 4 кастрычніка 1997 году). Гэта й ёсьць оруэлаўская „навамова“ – не беларуская, ня руская, не, нарэшце, таксама вялікая ангельская. Беларускае навамоўе – гэта сумесь дрэннай беларускай і дрэннай рускай, і нам, беларусам, кажуць на гэтай мове: „Мы імеем два маменты, каторымі крупна распалагаем!“ (Гаворка тут ідзе пра „праваслаўны (!) атэізм“).



*Перакладчык „Фаўста“ Васіль Сёмуха і перакладчык „Уліса“ Ян Максімюк падчас сэмінару ў Ядвісіне. 21 кастрычніка 1998 г.*

Барані мяне Божа, я нічога не хачу благога сказаць пра нашага прэзыдэнта, будучы ў чужой краіне. Гэта было б нетактоўна. Але, як беларусы кажуць: „Не да парасят сьвіньні, калі самую смаляць“. Наш прэзыдэнт выказвае пачуцьці й думкі той часткі народа, якая абрала яго на высокую пасаду, і гэтая частка дасюль актыўна яго падтрымлівае. Гэта тая частка народу, якая, падобна да старажытных жыдоў, якіх Майсей вёў цераз пустыню да свабоды, настальгічна енчыла ў дарозе, прагнучы вярнуцца ў рабства: „Прышэльцаў жа, якія былі сярод іх, агарнулі прыхамаці; а зь імі й сыны Ізраелевы пачалі нанова бядаваць і мовіць: хто накорміць нас мясам? Прыпамінаем сабе рыбу, якую елі ў Эгіпце задарма, і агуркі, дыні й зялёную цыбулю, і цыбулю й часнок. А цяпер выбіліся мы зь сілаў, бо ня маем нічога, а толькі манна ў вачох нашых“ (Лікі, 11:4-6).

Сёньня беларусы ідуць па пустыні, але вядзе іх ня мудры Майсей, а мяцежны Карэй, і вядзе не ў зямлю абяцаную, а назад у Эгіпэт.

**Васіль Сёмуха**

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ




У Беларусі шырыка было адзначанае дзесяцігодзьдзе дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту - БНФ. 18 кастрычніка ў Менску на плошчы Якуба Коласа адбыўся трохгадзінны мітынг з удзелам вядучых дзеячоў апазыцыі. 19 кастрычніка з нагоды юбілею ў перапоўненай залі палаца культуры ВА „Сукно" адбыліся ўрачыстасьці, напачатку якіх сп. Лявон Баршчэўскі зачытаў „Зварот" старшыні БНФ Зянона Пазьняка. Сп. З. Пазьняк падкрэсьліў, што стварньне БНФ ёсьць „сьцьверджаньне ідэяў, прынцыпаў і ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі... працяг сьветлага беларускага адраджэньня, перапыненага ў 1918 годзе бальшавіцкай акупацыяй... другая вызначальная падзея ў беларускай гісторыі XX стагодзьдзя пасьля стварэньня й абвешчаньня незалежнасьці БНР". Да самых важных дасягненьняў БНФ сп. З. Пазьняк аднёс ліквідацыю КПСС-КПБ, абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, а таксама тое, што менавіта Фронт расказаў і расказвае сьвету пра Чарнобыль і Курапаты. У "Звароце" была адзначаная вялікая заслуга ў гэтым гераічнай бэнээфаўскай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня й выказанае перакананьне, што яе дзейнасьць, „якая пераможна разгортвалася насуперак усялякай колькаснай лёгіцы й арытмэтыцы, увойдзе ў гісторыю парлямантарызму". Дзякуючы нешматлікай дэпутацкай апазыцыі й пры актыўнай падтрымцы Фронта, нагадаў старшыня БНФ, былі вернутыя на дзяржаўны пасад беларускія нацыянальныя сымбалі, запачаткаванае стварэньне сапраўднага беларускага войска, беларускіх школаў, выданьне беларускіх па духу падручнікаў і кніг. „Мы ўсё гэта страцілі!" - скажуць пэсымісты. „Мы ўсё гэта вернем ізноў!" - наш адказ... Зарукай таму наша воля й наша моладзь, якая ўжо ўпісала сваю прыкметную старонку ў справу свабоды й незалежнасьці Беларусі. Будучыня за намі, бо колькі б не ўладарылі, не віравалі на нашай зямлі ўчорашнія сілы ўчорашняга дня, у іх нічога няма наперадзе й час іхні прабіты!" *(цыт. са „Звароту" — заўв. Х. Н.)*.

Пасьля зачытаньня прывітальнага слова Зянона Пазьняка са зьместоўным дакладам выступіў нам. старшыні БНФ сп. Вінцук Вячорка. Прысутныя пачулі таксама выступленьні такіх уплывовых беларускіх палітыкаў, як Сямён Шарэцкі й Станіслаў Шушкевіч. Выступілі таксама нам. старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі А. Дабравольскі, кіраўнік „Маладога Фронту" П. Севярынец, прэзыдэнт ЗБС „Бацькаўшчына" Р. Гарэцкі ды іншыя. Раз-пораз пад гарачыя воплескі ў залі зачытваліся прывітальныя тэлеграмы замежных беларускіх арганізацыяў, панаваў шчыры сьвяточны настрой, гучала нашае „Жыве Беларусь!" Усё гэта нагадала мне пэрыяд не такога далёкага мінулага, час змаганьня за незалежнасьць Летувы, калі шматтысячныя галасы на мітынгах скандавалі: „Летува! Летува! Летува!"

З канцэртнай праграмы юбілею мне асабліва запомнілася выступленьне балетнай трупы й фальклёрнай суполкі „Госьціца". Добра гучалі злададзённыя песьні ў выкананьні бардаў Ігара Мухіна-Рабянка й Віктара Шалкевіча. Было відавочна, што ўсе прысутныя на сьвяткаваньні атрымалі дастаткова эмоцыяў ды энэргіі дзеля далейшага змаганьня за свабоду й незалежнасьць нашай роднай Бацькаўшчыны-Беларусі.

**Хведар Нюнька**

*1 лютага 1999 году*
*споніцца 80 гадоў*
*з дня заснаваньня славутай*

***ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.***

*З тае нагоды ў Вільні*
*плянуецца арганізаваць*
*музэйную выставу й выдаць зборнік мэмуараў.*
*Ласкава запрашаем адгукнуцца ўсіх,*
*хто мае якую-колечы інфармацыю пра нашую легендарную навучальную ўстанову.*
*Нас цікавяць*
*рэчы, дакуманты, фатаздымкі,*
*якія датычаць гісторыі Гімназіі,*
*а галоўнае — ўспаміны*
*пра ейных настаўнікаў і вучняў.*

*Тэлефон для кантактаў:* ***65 50 69.***
*Адрас для допісаў: Сяргей Вітушка,*
***Kaminkielio 37-27, 2000 Vilnius, Lietuva***

## Дзякую

за прысланую кніжку „Упошуках зачараваных скарбаў". Хачу зазначыць, што ў пошуках тых скарбаў мы ўсе амаль былі. Толькі некаторым знаходзіць было лягчэй, як іншым. Зь вялікай цікавасьцю прачытаў і передаю іншым.

**Янка Жучка**
*Бэльгія*

## Мэру Масквы Лужкову Ю. М.

Паважаны Юры Міхайлавіч! Даводжу да Вашага ведама, што ў ноч з 31 жніўня на 1 верасьня на адной з цэнтральных вуліцаў гораду Віцебска мною быў учынены дэмантаж бюсту расейскага ваеначальніка Аляксандра Суворава. Для расіянаў гэты чалавек, несумненна, зьяўляецца нацыянальным героем, які агнём і мечам пашыраў межы Расейскай імпэрыі. Для грамадзянаў Беларусі – гэта кат, які жорстка патапіў у крыві паўстаньне за незалежнасьць Тадэвуша Касьцюшкі, што мела трагічныя наступствы для беларускай дзяржаўнасьці.

На працягу стагодзьдзяў пад беларускім дахам суіснавалі розныя нацыянальнасьці, у тым ліку й рускія, якіх зараз тут налічваецца 1,5 млн. Беларус заўжды даваў у сваёй хаце прытулак усім, хто меў у тым патрэбу, нічога, апрача павагі да гаспадара, не патрабуючы. Ушанаваньне памяці Аляксандра Суворава ў Беларусі зьяўляецца абразай нацыянальнай годнасьці кожнага сьвядомага беларуса й ценем кладзецца на дабрасуседзкія стасункі абедзьвюх краінаў. Фактычна без пашкоджаньняў зьняўшы з пастамэнту бюст, я нарэшце даў уладам зачэпку падумаць: ці патрэбны такі манумэнт у нашым горадзе? Ці можна рабіць у хаце перабудову бяз згоды гаспадара?..

Нядаўна... мне стала вядома, што ўлады зьбіраюцца аднавіць бюст на ранейшым месцы. Калі так адбудзецца, дык я не магу гарантаваць непарушнасьць гэтае скульптуры на будучае. Мне вядома таксама, што амаль у кожным публічным выступленьні Вы выяўляеце сябе захавальнікам расейскіх традыцыяў. Калі Вы не на словах, а на справе шануеце гісторыю расейскай дзяржавы, дык, на мой погляд, было б мэтазгодна забраць у віцебскіх уладаў бюст Аляксандра Суворава ў Маскву. Там ён будзе да месца. Ну, а на якой вуліцы ці плошчы расейскай сталіцы ўсталяваць выяву з гіпсу й марморавай крошкі – вырашаць масквічам.

Разьлічваю на ўзаемаразуменьне,

**Мірон**
*(„Выбар" N 24/98)*

## Адказ сакратару Нацыянальнага алімпійскага камітэт РБ

беларусаў Аўстраліі даслаў нам сп. **Паўлюк Гуз** з Мэльбурну з просьбай надрукаваць яго ў нашай газэце:

Паважаны Спадар А. Іваноў! ...Ваш зварот да беларускіх суполак у Аўстраліі Выканаўчы камітэт Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі абмяркаваў і, беручы пад увагу важнасьць... рэпрэзэнтацыі Рэспублікі Беларусь на „Алімпіядзе – 2000", разаслаў Ваш зварот да ўсіх беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі на абмеркаваньне й каб яны як найхутчэй далі свой адказ на Вашую прапанову.

Агульны выснаў, як і трэба было спадзявацца, атрымаўся адназначны. Беларусы Аўстраліі стаяць на прынцыпе: рэпрэзэнтацыя Рэспублікі Беларусь павінная быць як незалежнай сувэрэннай дзяржавы з усімі нацыянальнымі прыкметамі й нацыянальнай сымболікай. Гэта значыць: пад бел-чырвонабелым сьцягам, гэрбам... „Пагоня" і з належным нацыянальнай годнасьці беларусаў гімнам. Калі Беларусь верне ўсе гэтыя годнасьці, мы, беларусы Аўстраліі й беларусы ўсяго сьвету, прыкладзём усе нашыя магчымасьці, каб дапамагчы нашым алімпійскім спартоўцам заняць пачэснае мейсца сярод найлепшых спартоўцаў сьвету.

Вашая заўвага наконт таго, што „украінцы, якія жывуць у Аўстраліі, дзейнічаюць у гэтай справе для сваіх алімпійцаў", зьяўляецца якраз адваротнай, што датычыць беларусаў. Украінцы на сёняшні дзень маюць сваю сапраўдную ўкраінскую дзяржаву, дзе адзінай дзяржаўнай мовай зьяўляецца ўкраінская мова, маюць сваю гістарычную сымболіку й свой нацыянальны гімн, а таксама сваю Вярхоўную Раду: ім ёсьць чым ганарыцца й каму дапамагаць, а ў нас, у беларусаў, усяго гэтага няма. На вялікі жаль, Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ва ўладзе здраднікаў, якія не валодаюць нават самымі элемэнтарнымі якасьцямі беларуса, такімі, як беларуская мова, і таму мы катэгарычна адмаўляемся прымаць які-небудзь удзел у гэтай алімпіядзе й дапамагаць каманьдзе, якая выступае як беларуская, але пад варожай нам сымболікай. Гэта сымболіка не беларуская й ня праўная, мы ніколі яе не прызнавалі, не прызнаем і ў будучыні не прызнаем, бо гэта ёсьць савецкая камуністычная сымболіка, гвалтам нам накінутая чужынцамі.

Выбачайце нам, Спадар Анатоль Іваноў, за такі адмоўны адказ, але гэта зьяўляецца нашым пратэстам супраць выступу беларускай каманды на „Алімпіядзе – 2000" пад камуністычнай сымболікай... Спадзяемся, што перакладчыка зь беларускай мовы на рускую Вы там, у Рэспубліцы Беларусь, знойдзеце.

З пашанай.
Жыве Беларусь!

*за Выканаўчы камітэт Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі старшыня* **Яўген Груша**

## БАЛТЫЦКІ ХРАНОГРАФ

# „Беларускі падворак“ у Эстоніі

„Трэба дома бываць часьцей“ – вядомы радок з нашай вядомай песьні. Але як жа цяжка цяпер беларусам Нарвы „бываць дома часьцей“: каб паехаць туды, патрэбныя візы й вялікія грошы. Тым цяжэй на чужыне тым, хто не адрокся ад сваё беларускасьці, ад матулінай мовы, хто ведае свой радавод калі й не „да пятага калена“, дык усё ж помніць, хто ён, адкуль пайшоў...

Ёсьць такая жартлівая ўсходняя прымаўка: „Калі гара ня йдзе да Мухамэды, дык Мухамэд ідзе да гары“. А мы, сябры Беларуска-эстонскага культурна-асьветніцкага аб'яднаньня „Спадчына“ пастанавілі паклікаць да сябе ў госьці кавалачак нашай Радзімы, узнавіць яе на эстонскай зямлі. І, нарэшце, пасьля трох месяцаў перамоваў і падрыхтоўчай працы быў арганізаваны „Беларускі падворак“. А як ведама, менавіта на падворку праходзіла асноўная частка жыцьця й сялянаў і магнатаў з усімі іхнімі радасьцямі й горасьцямі. На „Беларускім падворку“ ў Нарве былі выстаўленыя мастацкія вырабы нядзельнай школкі, куток беларускай хаты і – галоўнае – вырабы майстроў Лепельскага дому рамёстваў.

Сьвята атрымалася! Гэта быў сапраўдны кірмаш народнай творчасьці з гульнямі, песьнямі, танцамі, абрадамі, прынамсі, з абрадам сватаўства, традыцыйным на Пакравы. Адбылася выстава мастакоў Лепельшчыны й – што больш за ўсё прыцягнула нарвіцянаў –майстар-клясы, у якіх кожны заахвочаны мог спасьцігнуць асновы найбольш распаўсюджаных у Беларусі рамёстваў: ткацтва, пляценьне паясоў, пляценьне з лазы й стужкі, выцінанкі, састаўленьня абрадавых кампазыцыяў, ганчарства.

На базе „Беларускага падворку“ быў заарганізаваны таксама сэмінар для настаўнікаў працы, выяўленчага мастацтва, сусьветнай мастацкай культуры, музыкі й для выхавацеляў дзіцячых садкоў. За сем дзён тут наведнікаў пабывала больш, чым ва ўсёй мастацкай галерэі за месяц. Засталіся фатаздымкі, відэазапісы паездак, заняткаў у майстар-клясах, засталіся вучні, а самае галоўнае – сяброўская й дзелавая лучнасьць зь лепельчанамі. Для нас значна тое, што праект „Беларускі падворак“ быў падтрыманы Міністэрствам культуры РБ і фінансаваны Міністэрствам культуры Эстоніі й фондам „Kultuurikapital“.


Адкрыцьцё „Беларускага падворку“

Нашыя госьці зь Беларусі ня толькі самааддана працавалі на „Беларускім падворку“, „Спадчына“ арганізавала ім цікавыя экскурсіі ў Пюхціцкі манастыр, куды яны былі прынятыя на багаслаўленьне ігуменьні матухны Варвары. Выдатным гідам па знакамітых мясьцінах Эстоніі ад Нарвы да Таліна быў Уладзімір Дзехцярук: напэўна ніводзін эстонец ня ведае так дасканала эстонскую зямлю, ейную гісторыю, як ён, наш апантаны вандроўнік, паэт, чалавек шырокага кругагляду. Дзякуючы яму мы з нашымі гасьцямі пабывалі ў Лахемаакім запаведніку, сядзібе ў Палмсе, каля мэмарыяльнага комплексу дэпартаваным эстонцам у Пуртсэ. Пабывалі й каля знакамітага эстонскага вадаспаду на рацэ Ягала, непадалёк ад Таліну і ў самым старажытным Таліне, дзе нас чакаў цёплы прыём суайчыньнікаў. Прыём у Таліне арганізаваў ген. консул РБ у Эстоніі Іван Бэндэр, а ў Йыхві нас сустракала суполка „БЭЗ“.

Вялікі праект „Беларускі падворак“ мэты свае дасягнуў. Пачатак пакладзены, і плённы пачатак. „Спадчыне“ ўдалося распрацаваць, абараніць і ажыцьцявіць яго, знайсьці падтрымку, зьвярнуць увагу абодвух міністэрстваў культуры, гарадзкіх уладаў, зацікавіць людзей розных нацыянальнасьцяў, парадаваць беларусаў ды іншых прысутных на сьвяце. Беларуская народная творчасьць у шырокім маштабе й на найвышэйшым узроўні была прадстаўлена лепельчанамі. Але ж і мы былі побач зь імі, вучыліся ад іх, адчувалі сябе часьцінкаю Радзімы. Цеплыня сэрцаў сапраўды сагрэла паўночныя душы.

*Старшыня БЭКАА „Спадчына“*
**Тацьцяна Караткевіч**

# Птушкі й Міхаська


*Малюнак **Алега Аблажэя***

### Птушкі й Міхаська

На двары суворы студзень.
Сьнег мяце.
Птушкі ранкам вас абудзяць
Ў цемнаце:
– Мы ня маем сваіх хатак,
Ціў-ціў-ціў.
Мы шукаем тут зярнятак,
Ціў-ціў-ціў.
Дык ляціце да Міхаські
На балькон.
Канапелек і зярнятак
Дасьць вам ён.

*(Паводле **Л. Геніюш**)*

### Верабейка ўвесь дрыжыць

Верабейка ўвесь дрыжыць:
– Як тут жыць, як пражыць?
Набліжаецца зіма,
Цёплай вопраткі няма.
Цык-цырык! Цык-цырык!
Я ад холаду адвык.
І азяб я, і прамок –
Слаба грэе мой пушок!
Цык-цырык! Цык-цырык!
Я ад холаду адвык!

*(Паводле **С. Шушкевіча**)*

### У мяцеліцу

Ля хаты – горы сьнегавыя.
Нібы ваўчыца, бура вые.
Прытулак бедная сініца
Знайшла сабе ля аканіцы.
Я фортку шпарка адчыняю,
Пагрэцца птушку запрашаю.
Яна ж мяне не разумее...
Вох, замяце яе завея!

*(Паводле **І. Муравейкі**)*

### Курапатка

Сьнег вакол, а ў курапаткі –
Ані норкі, ані хаткі.
– Што ж паесьці? Дзе паспаткі?
Мёрзнуць ногі ў курапаткі.
Зьела б мёрзлую калінку,
ці кісьлінку-журавінку –
За кустамі вельмі блізка
Ходзяць зтрашны воўк і ліска.

Зерне выдзеўбла б з былінкі –
Ды каршун глядзіць з асінкі
З клёна вырвала б пупышку –
Совы тояцца ў зацішку.
Шусь пад сьнег яна крадком –
Сыпць з галодным жыватком.
Раніцой на прыгуменьні
Ты сыпні ёй крошак жменю.

*(Паводле **З. Верас**)*

### Прыляцелі сьнегіры

Сьнег глыбокі на двары –
Прыляцелі сьнегіры:
Есьці хочам! Дзінь-дзінь-ціў!
Хто б нас трошкі падкарміў?
З хаты выскачыў Цімошка,
Сьнегірам насыпаў крошкі.
Скачаць, скачаць сьнегіры,
Як чырвоныя шары.

*(Паводле **М. Парахневіча**)*

### Сыплецца мяккі, пушысты сьняжок

Сыплецца мяккі пушысты сьняжок,
Белаю коўдрай пакрыўся лужок,

Лес нерухома стаіць за сялом,
Рэчка замоўкла пад тоўстым ільдом.

Птушкам знайсьці зараз ежу цяжэй,
Дзеці, змайструем кармушкі хутчэй!

Зерне насыплем – хай птушкі дзяўбуць,
Песьню вясёлую нам прапяюць.

*(Паводле **А. Ставера**)*

### Вісяць кармушкі каля хат

Лясы атрэсьлі лісьця засень,
Пахаладнела, дождж імжыць.
К жытлу людзкому падалася
Сініца цяжкі час пражыць.

І прывяла шчыгла сястрыца,
І сьнегіра, і кожны рад:
Зімы халодны не збаіцца —
Вісяць кармушкі каля хат!

*(Паводле **Д. Сасева**)*

**Алег Аблажэй**

### Броўнаўскія думкі

- Энтузіязм мае ў сабе штось сугучнае ідыятызму.
- Жыцьцёвая мудрасьць палягае на тым, каб не дадаваць самому цяжкасьцяў да тых, якія стварае само жыцьцё.
- Чорны анэкдот з жыцьця. У Італіі цэлы горад, нібыта Пампэі, заліло гразёю. Сотні людзей загінулі, тысячы засталіся бяз даху над галавою. Знайшлі аднаго пацярпелага, які тры дні, ня могучы варухнуцца, стаяў па шыю ў гразі. Пэўны біскуп прывёў гэты прыклад як доказ неверагоднай міласэрнасьці Божай...
- Некаторыя матацыклісты езьдзяць так, быццам забыліся ўставіць у шалом галаву...
- Трэба вучыцца шанаваць сваю годнасьць, пакуль бедны. Станеш багатым — будзе запозна.
- Самы ідыёцкі занятак у жыцьці — чакаць, што нарэшце пачнеш жыць...



**Шчыра дзякуем за ахвяраваньні**

| | |
|---|---|
| **А. Моніду** з Канады | 100$; |
| **Я. Жучку** з Бэльгіі | 100$; |
| **М. Смаршчку** з Амэрыкі | 100$; |

на грошы якіх будзе выдадзены наступны нумар нашае газэты.

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

**Умовы падпіскі**

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх на адрас рэдакцыі на імя старшыні ТБК Хведара Нюнькі (Fiodor Niunka) або галоўнаму рэдактару Алегу Мінкіну (Oleg Minkin). Кошт падпіскі на год – **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў пашэшканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt**.

Нашым патэнцыяльным падпісчыкам у Беларусі паведамляем нумар тэлефону ў Гародні: **(8 0152) 44 01 27**. Кошт падпіскі на год – **5$**.




газэта беларусаў Літвы

выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік і выдавец
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі:
**2001 Vilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: 61 65 32, 42 38 02
друк: АТ «Спаўда»
замова ___
наклад 1000 асобнікаў
Сябры рэдакцыі:
**Алег Мінкін** - галоўны рэдактар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Рычардас Талюшыс** - макет і вёрстка
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Павал Саўчанка** - падпіска й распаўсюджаньне